ГРОДНА
№8 (560),
18 красавіка 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Чым бліжэй да Марыі, тым бліжэй да Бога




*Св. Людвік Марыя Грыньён дэ Манфор – піянер марыйнай набожнасці і марыялогіі, каталіцкі пісьменнік.*

на старонцы 2

## Азёры




*Азёры – адно з самых старых мястэчак у ваколіцах Гродна. Асобная парафія тут паўстала ў 1676 годзе.*

на старонцы 4

## 30-гадовы юбілей дыяцэзіі: закрыстыянін на пляцы Хрыста тады і цяпер




*Спадар Стэфан Ядкоўскі бараніў Касцёл і веру яшчэ да заснавання Гродзенскай дыяцэзіі.*

на старонцы 6

# ЦЯРНІСТЫ ЦІ ПРОСТЫ, АБО ПРА ДОЎГІ ШЛЯХ ДА СВЯТАРСТВА




*Часам варта крочыць рознымі сцежкамі, каб выйсці на ўласны шлях*

**Нядзелю Добрага Пастыра сёлета адзначаем 25 красавіка і молімся аб пакліканнях да святарства і манаскага жыцця. З гэтай нагоды знаёмімся з жыццёвымі гісторыямі тых святароў нашай дыяцэзіі, што прыйшлі ў семінарыю з “багажом” – працоўным стажам, універсітэтам, адносінамі.**

на старонцы 3

## СУПРАЦОЎНІК ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАГА ВЫДАВЕЦТВА АЛЯКСАНДР КУЗНЯЦОЎ:

# “ТРЭБА АБУДЖАЦЬ У ЛЮДЗЯХ КНІЖНЫ ГОЛАД”




*Набыць адмысловыя кнігі можна ў магазіне пры дыяцэзіяльнай курыі або ўзяць пачытаць у семінарыйнай бібліятэцы ў Гродне (яна адкрыта для кожнага)*

**Чытанне для хрысціян заўсёды было пунктам асаблівай увагі. Наўрад ці ёсць арганізацыя, якая б за сваю гісторыю выдала больш кніг, чым Касцёл.**

на старонцы 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!

Езус – Найвышэйшы Пастыр – парайноўвае нас з авечкамі, якія ідуць за голасам пастуха. Ён як Добры Пастыр клапоціцца пра авечак, дарученых Яго апецы Айцом. Перш за ўсё, дае вечнае жыццё, непакоіцца пра бяспеку. Ён заўсёды побач і ведае нас лепш за ўсіх. Мы атрымліваем гэты надзвычайны клопат як бескарыслівы падарунак.

Аднак ёсць небяспека, што мы можам адрынуць такі дар. Хоць гэта і здаецца неверагодным, яно стане магчымым у момант, калі перастанем слухаць голас Пастыра. Не чуючы голасу, не заўважым Яго прысутнасці і сыдзём з дарогі, якая вядзе да дома Айца. Таму Бог дае нам пастыраў у асобе святароў, але не толькі...

Кожны чалавек выконвае пастырскую функцыю, калі клапоціцца пра збаўленне ўласнае і тых, каго Пан ставіць на яго шляху. Падобна апосталам, мы ўсе павінны быць "святлом для язычнікаў", няверуючых, прыгнечаных цяжарам жыцця, а таксама для авечак, якія згубіліся, адышлі. Гэта няпросты шлях, але ён прыносіць сапраўдную радасць, што зыходзіць ад Святога Духа.

Варта прыкласці максімум намаганняў, каб апынуцца ў абдымках Пастыра, які выцірае кожную слязу з вачэй, напоўніць сэрца да краёў любоўю і ўчыніць, што мы злучымся з Ім у адно цэлае, падобна як Ён з'яўляецца адным цэлым з Айцом.



ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**23 красавіка**

***Успамін св. Юрыя, мучаніка.***

*Св. Юрый – поўная сумненняў постаць. Таму што дакладна невядома, ці сапраўды ён існаваў. Магчыма, гэта выдуманы персанаж, але на працягу стагоддзяў у яго верылі, прасілі аб заступніцтве ды ўсхвалялі ў літаратуры і мастацтве. Агіяграфія паведамляе, што ён быў з Кападокіі, Бейрута ці Лода. Нарадзіўся, верагодна, у другой палове III стагоддзя. Яго бацькам быў Геронцій, язычнік грэчаскага паходжання, сенатар і афіцэр рымскай арміі, а маці – хрысціянка Поліхронія. Гэта маме св. Юрый быў абавязаны сваім хрысціянскім выхаваннем.*

**24 красавіка**

***Успамін св. Войцеха, біскупа і мучаніка.***

*Св. Войцех нарадзіўся каля 956 года. Паходзіў з магутнага роду Слаўнікаў. У 983 годзе стаў біскупам Прагі. 3-за родавага разладу быў вымушаны двойчы пакідаць сваю сталіцу. У Рыме ён далучыўся да бенедыктынскага абацтва. Быў місіянерам у Венгрыі і Польшчы. 3 апошняй выехаў у Прусію, дзе памёр ад рук язычнікаў 23 красавіка 997 года. Яго мошчы спачываюць у гнезненскай катэдры.*

**25 красавіка**

***Нядзеля Добрага Пастыра. Тыдзень малітвы аб пакліканнях да службы ў Касцёле.***

*IV Велікодная нядзеля адзначаецца ў Касцёле як Нядзеля Добрага Пастыра – дзень асаблівай малітвы аб пакліканнях. Трэба прасіць Бога, каб многім маладым людзям Ён удзяліў дар паклікання, каб не было нястачы ў добрых пастырах, якія аддадуць жыццё за авечак. Неабходна маліцца за маладых, каб яны смела адгукнуліся на Божы заклік, і не забываць пра тых, хто ўжо пакліканы – пра святароў і манахаў. Яны ўжо абралі свой шлях і ідуць за Езусам – Добрым Пастырам.*

**29 красавіка**

***Свята св. Кацярыны Сіенскай, панны і доктара Касцёла, заступніцы Еўропы.***

*Кацярына ды Бенінкаса нарадзілася ў 1347 годзе як 23-яе дзіця фарбавальніка воўны з Сіены. Ужо ў 7 гадоў яна склала абяцанне цнатлівасці. У 16 гадоў прыняла хабіт тэрцыяркі св. Дамініка. Вяла глыбокае ўнутранае жыццё, поўнае самаўтаймавання, і адначасова аказвала вялікі ўплыў на грамадскі лад таго часу. Дзякуючы ёй Папа Рымскі Рыгор XI вярнуўся з Авіньёна ў Рым. Вяла шырокую перапіску і задавала тон духоўным веянням. Памерла ў Рыме 29 красавіка 1380 года. Папа Павел VI абвясціў яе доктарам Касцёла.*

# ЧЫМ БЛІЖЭЙ ДА МАРЫІ, ТЫМ БЛІЖЭЙ ДА БОГА

працяг са с. 1

**"Збаўленне свету пачалося праз Марыю, і праз Марыю яно павінна здзейсніцца", – пісаў св. Людвік Марыя Грыньён дэ Манфор у "Трактаце аб сапраўдным набажэнстве да Найсвяцейшай Панны Марыі". Гэты тэкст заставаўся неапублікаваным на працягу 130-ці гадоў. Калі ж ён убачыў свет у 1843 годзе, амаль адразу стаў адным з фундаментальных твораў марыйнай набожнасці.**

*Апрацаваў кс. Юрый Марціновіч*




wikipedia.org

Аўтар "Трактата" быў натхняльнікам для многіх пакаленняў вернікаў, якія абралі Найсвяцейшую Маці ў якасці сваёй Кіраўніцы. Адным з іх быў св. Ян Павел II, які ў сваім гербе змясціў лозунг св. Людвіка "Totus Tuus" (Увесь Твой), які адносіцца да Марыі.

Св. Людвік нарадзіўся ў мястэчку Манфор-сюр-Ме (Францыя) 31 студзеня 1673 года. Быў другім з 18-ці дзяцей у сям'і. Яго бацькі рабілі вялікі акцэнт на рэлігійным выхаванні сваіх дзяцей, таму чацвёра з іх пасля прынялі духоўны сан.

3 дзяцінства Людвік вылучаўся вялікай набожнасцю і рашучасцю. Пасля заканчэння мясцовай школы спачатку вучыўся ў езуіцкім калегіуме св. Томаса Бекета ў Рэне, а затым вывучаў тэалогію ў парыжскай семінарыі.

У цэнтры сваёй духоўнасці Людвік паставіў культ Найсвяцейшай Панны Марыі і вернасць абяцанням хросту. Каб выразіць гэта, ён узяў другое імя "Марыя", а да свайго прозвішча дадаў "Манфор" – ад назвы парафіі, у якой быў ахрышчаны.

### НАРОДНЫ МІСІЯНЕР

Святарскае пасвячэнне прыняў у 1700 годзе, а затым усё сваё жыццё прысвяціў місіянерскай дзейнасці ў гарадскіх і сельскіх асяродках Францыі. Хадзіў з мястэчка ў мястэчка, прапаведуючы Божае слова. Меў дзівосны дар перакanання, таму яго місіі былі паспяховымі.

Падчас сваіх падарожжаў Людвік правёў больш за 200 рэкалекцый і місій. Пакінуў пасля сябе шмат багаслоўскіх і аскетычных трактатаў. Быў заснавальнікам Таварыства Марыі і Кангрэгацыі Дачок Божай Мудрасці. Меў два захапленні: ратаванне людзей з няволі грахоў і клопат пра хворых. Таму ў якасці мэты вызначыў для сваіх духоўных дачок навучанне беднай моладзі, наведванне і догляд за хворымі ў бальніцах, прытулках і прыватных дамах, а таксама дапамогу ўсім, хто аб ёй просіць.

### АБАРОНЦА ВЕРЫ

Французскае грамадства на мяжы XVII–XVIII стагоддзяў было паглынута духоўна-маральным крызісам. Адна яго частка схілялася да геданізму – жыцця, напоўненага задавальненнем, якое вяло да разбэшчанасці. Для іншых жа быў характэрны жорсткі, фармалістычны і змрочны маралізм, далёкі ад міласэрнай любові Бога. Гэтыя пошукі задавальнення і надзвычай строгі янсенізм былі двума полюсамі, якія фарміравалі тагачасных французаў.

**Літургічны ўспамін св. Людвіка Марыі Грыньён дэ Манфора прыпадае на 28 красавіка.**

Св. Людвік бачыў у Крыжы крыніцу хрысціянскай мудрасці, якая вучыць чалавека бачыць і любіць у створаных рэчах праявы і сімвалы Бога; аддаваць перавагу веры перад ганарлівым розумам, веры і праведнаму розуму перад мяцежнымі пачуццямі, маральнасці перад распуснай воляй, духоўнасці перад цялеснасцю і вечнасці перад смяротнасцю. Аднак гэты палымяны прапаведнік хрысціянскай строгасці не меў нічога агульнага са змрочнай і строгай пастаю, напрыклад, Кальвіна ці Янсенія. У св. Людвіка суровасць змякчалася глыбокай і надзвычай кранальнай адданасцю Маці Божай.

### НЯВОЛЬНІК МАРЫІ

Вялікае набажэнства да Багародзіцы – асаблівы знак набожнасці святога. Ён даручыў сябе Марыі ў выключную ўласнасць. У "Трактаце аб сапраўдным набажэнстве да Найсвяцейшай Панны Марыі" св. Людвік развіў і абгрунтаваў перавагі поўнага прысвячэння сябе Маці Божай. Ён падкрэсліваў, што Марыя з'яўляецца чыстым, непасрэдным каналам, па якім нашы малітвы ідуць прама да Бога. Яна збірае іх, перамяняе і перадае Айцу. "Найсвяцейшая Панна з вялікай любові да нас прымае ў свае дзявоцкія рукі дары, якія нясём Ёй са сваіх учынкаў, і, надаючы ім цудоўнае зззянне прыгажосці, сама ахвяруе іх Хрысту. Такім чынам яны прыносяць Богу больш славы, чым калі б мы сваімі грэшнымі рукамі складалі Яму іх у ахвяру", – напісаў аўтар у "Трактаце".

Св. Людвік Марыя Грыньён дэ Манфор пасля цяжкіх баёў з "князем гэтага свету" адышоў у вечнасць 28 красавіка 1716 года ва ўзросце 43 гадоў. За сваю бескампрамісную адданасць Хрысту і Марыі ён атрымаў узнагароду. Быў беатыфікаваны папам Львом XIII у 1888 годзе, а кананізаваны ў 1947 годзе папам Піем XII.

# ЦЯРНІСТЫ ЦІ ПРОСТЫ, АБО ПРА ДОЎГІ ШЛЯХ ДА СВЯТАРСТВА

працяг са с. 1

**Якую ролю жыццёвы досвед іграе ў распазнанні канчатковага паклікання, чытайце ў сённяшнім нумары газеты "Слова Жыцця".**

Ангеліна Марцішэўская

## Кс. Аляксандр Сямінскі: *"Любое пакліканне Бог дае дзеля аднаго – дзеля чалавечага шчасця"*



На св. Імшы, якую цэлебруе кс. Аляксандр, заўсёды затрымліваешся крыху даўжэй. Святар можа падоўгу звяртацца да вернікаў на пачатку службы, разважліва гаварыць казанне і не спяшацца з удзяленнем блаславення напрыканцы – імкнецца ізноў данесці людзям Божае слова. Сярод парафіян не адчуваецца нецярплівасці, яны ўдумліва прыслухоўваюцца. А чаму павінна быць інакш? Прамовы кс. Аляксандра заўсёды вельмі інтэлігентныя, часта наздвычай трапныя. Здзіўленне хутчэй выклікае іншае: у свецкім мінулым кс. Аляксандр – супрацоўнік Гродзенскага завода карданных валаў, слесар.

***"У дзяцінстве і юнацтве я меў сціплы рэлігійны досвед. Бабуля перадала асновы хрысціянскай веры, аднак я наведваў касцёл нерэгулярна. Хутчэй звяртаўся да Бога, калі перажываў пэўныя складаныя моманты,*** – распавядае кс. Аляксандр. – ***Пасля школы паступіў у палітэхнічны каледж. Над іншымі варыянтамі нават асабліва не разважаў: я не быў ані залатым медалістам, ані надта амбіцыйным. Па прыкладзе бацькі хацеў пайсці працаваць на завод – ён мог пасадзейнічаць".***

Як прызнаецца святар, праца каля станка яго дысцыплінавала і, як любы іншы занятак, пэўным чынам спрыяла развіццю яго асобы. Руцінная дзейнасць выклікала прагу да духоўнага, разумовага развіцця, і будучы святар пачаў часцей наведваць касцёл. Прымаючы ўдзел у св. Імшы, штораз адчуваў нарастаючае жаданне быць бліжэй да алтара. ***"Мне было 22 гады, калі вырашыў стаць міністрантам. І на працягу 6-ці гадоў быў членам Літургічнай службы алтара ў сваёй роднай парафіі Паўднёвы ў Гродне. У гэты час мяне нібы ўсё задавальняла. Мы ўсе створаны па вобразе Творцы, і я шчыра цешыўся, калі атрымлівалася штосьці добра зрабіць, «стварыць» на працы. А духоўныя патрэбы заспакойвала служба пры алтары",*** – узгадвае кс. Аляксандр.

Аднак пасля 8-мі гадоў працы на заводзе хлопец вырашыў, што хоча паступіць у семінарыю. Сапраўдным прыкладам у святарстве стаў для яго светлай памяці кс. прэлат Юзаф Трубовіч, які шмат маліўся ў інтэнцыі Аляксандра – бачыў у ім будучага святара.

***"Рашэнне стаць семінарыстам далося, з аднаго боку, лёгка, бо мяне рабіла шчаслівым блізкасць да Бога і духавенства. З іншага – складана, бо разумеў, што трэба будзе пераступіць праз сваю свабоду, ізноў стаць больш залежным ад бацькоў фінансава. Да таго ж яны, мякка кажучы, не ўзрадаваліся майму намеру. «Ну і што ты нарабіў?!» – пачуў я ад іх. Аднак з цягам часу іх настрой змяніўся, і бацькі самі сталі больш набожнымі і трывалымі ў малітве. У сваю чаргу сябры павіншавалі, а на заводзе не здзівіліся такому рашэнню, бо там я заўсёды стараўся паводзіць сябе, як належыць веруючаму чалавеку: старанна выконваў свае абавязкі, не паддаваўся галоўнай слабасці завадскіх працоўных – час ад часу ўжываць алкаголь. Гэта было незвычайна для служачага",*** – адзначае кс. Аляксандр.




Апынуўшыся ў семінарыі, хлопец аказаўся на 10 гадоў старэйшым за палову аднакурснікаў. ***"Думаю, тое, што я быў не адзін з алюмнаў, якія мелі «мінулае» за плячыма, аблегчыла асвойванне ў Alma mater. Аднак мянушку «дзед» атрымаў менавіта я,*** – дадае з усмешкай кс. Аляксандр. – ***Азіраючыся на семінарыйны досвед цяпер, разумею, што якраз «мінулае» дапамагло з большай адказнасцю падысці да навучання і паклікання ўвогуле. У семінарыю я прыйшоў арганізаваным чалавекам, які разумее, ад чаго адмаўляецца і што можа атрымаць. Як паказала практыка, гэта спраўджваецца. З 16-ці чалавек святарскія пасвячэнні атрымалі шасцёра: чацвёра тых, што прыйшлі ў семінарыю пазней астатніх, і двое юнакоў".***

Калі разважаць пра пакліканне, кс. Аляксандр упэўнены, што тут галоўнае не баяцца памыліцца: ***"Важна зазірнуць у сваё сэрца і спазнаць: чаго я хачу? А пасля зрабіць першы крок у патрэбным напрамку, бо менавіта гэтага і чакае ад нас Пан, каб павесці далей. І зусім неабавязкова, што па выбраным шляху ты пройдзеш да канца. Магчыма, ён патрэбны, каб адкрыць для сябе штосьці іншае. Гэтак жа з семінарыяй: чалавек можа прыйсці і менавіта там зразумець, што Бог кліча яго да нечага другога. І з любым іншым месцам таксама: стоячы каля станка, раптам усведамляеш, што павінен быць каля алтара".***

## Кс. Яўген Амасёнак: *"У пакліканні да святарства, як і ў сужэнстве, самае галоўнае – вернасць"*



Да кс. Яўгена цягнуцца людзі. Калі ён цябе сустракае, заўсёды ўсміхаецца, лагодна кранае за плячо і не забывае спытацца, як справы. Гучыць шчыра. Можа, таму вернікі да яго і імкнуцца, бо ва ўяўленні большасці святар павінен быць менавіта такім: далікатным, з усмешкай на твары і з цікавасцю да цябе. Хоць, разам з тым, адносна сябе кс. Яўгену ёсць чым падзяліцца. І адна з натхняльных гісторый – неадназначны шлях да святарства.

***"Пра маю сям'ю можна было сказаць так, як звычайна жартуем: «у касцёл хадзілі толькі яйкі асвяціць». Усё змянілася, калі памёр дзядуля і мы звярнуліся да ксяндза, каб арганізаваць пахаванне. Мясцовы святар прапанаваў паўдзельнічаць у катэхезах, і гэта дапамагло нам пазнаць Бога бліжэй. З таго моманту маё жыццё завіравала тыповай для касцёльнага хлопчыка дзейнасцю: служба міністрантам, паездкі на «Канікулы з Богам» і г. д.",*** – распавядае кс. Яўген.

Пасля заканчэння школы хлопец меў думкі адносна святарства, але яны не сягалі глыбока. Гэтак жа ён разважаў і пра медыцыну. А працаваць у выніку ўвогуле пачаў у рэстаранным бізнесе. Прысвяціў гэтай справе 7 гадоў: быў барыстай, працаваў у катэрынгу і пякарні. Як сам прызнаецца, праца пыглынала яго з галавой, а ён з задавальненнем у яе занураўся.



***"Распачаўшы самастойнае жыццё, я аддаліўся ад касцёла. Хадзіў у святыню па нядзелях, але не надаваў гэтаму вялікага значэння. Пачаў цікавіцца іншымі рэлігіямі, шмат чытаў пра ўсходнія плыні,*** – дзеліцца святар. ***– Калі ўвогуле ацэньваць той перыяд, я меў усё для шчасця: любімую справу, клапатлівую сям'ю, сяброў, дзяўчыну, пэўныя духоўныя імкненні, і адчуваў сябе ў гэтым добра".***

Аднак хлопца не пакідаў унутраны неспакой. Ён вырашыў сысці з працы і накіраваўся ў пілігрымку Мінск – Будслаў. Там яго ўразіла прастата і ўнутраная гармонія моладзі. ***"Тыя хлопцы і дзяўчаты не мелі аніякіх выдатных прафесій, не былі добра матэрыяльна забяспечаныя, як большасць маіх знаёмых, але сярод іх адчувалася сапраўдная радасць. Гэтым яны адрозніваліся ад майго асяроддзя, дзе заўважаў пэўную штучнасць",*** – дзеліцца кс. Яўген. Пасля ён пачаў граць у хрысціянскім тэатры, дзе двойчы выконваў ролю Хрыста. ***"Цікава, што той, хто да мяне граў Езуса ў гэтых спектаклях, таксама пайшоў у семінарыю",*** – дадае з усмешкай святар.

Адным з пераломных момантаў для хлопца стала членства ў "Легіёне Марыі". Яго заданнем было стукацца ў дамы ды кватэры і распавядаць людзям пра Бога. ***"Было нялёгка, бо людзі рэагавалі па-рознаму. Але тады я ўпершыню адчуў сапраўднае натхненне і супакой ад дзялення Добрай Навіной. Думаю, у той час і ўзнікла думка, што прапаведаваць – сапраўды маё",*** – узгадвае кс. Яўген.

Рашэнне хлопца паступаць у семінарыю не ацаніў ніхто. Аднак яго гэта мала бянтэжыла. Апошняй падказкай правільнасці намеру стала тое, што хлопцу пачалі паступаць прапановы працы, пра якія даўно марыў, але якія на той момант ужо страцілі для яго ўсякую вартасць. Галоўнай каштоўнасцю стаў Хрыстос.

***"Здаецца, у маім рашэнні не было логікі, бо жыццё амаль склалася, пры тым паспяхова. Да таго ж сваім выбарам я рабіў балюча ўсім блізкім. Аднак, як толькі апынуўся ў семінарыі, адчуў усім сэрцам, што знаходжуся там, дзе павінен быць,*** – дзеліцца кс. Яўген. – ***Хоць прысутнічаў і вялікі дыскамфорт. Большасць сакурснікаў былі нашмат малодшыя за мяне, з традыцыйных каталіцкіх асяроддзяў. Гэта было проста не маё кола зносін. А нам даводзілася быць разам 24/7, і трэба было знаходзіць агульную мову".***

Разам з тым, святар упэўнены, што калі ў семінарыю цябе прывяла сапраўдная любоў да Бога, а не захапленне знешнім – сутанай, калараткай, прызнаннем парафіян, – тады пакліканне да святарства спраўдзіцца. ***"Сама атмасфера ў семінарыі спрыяе таму, каб разгледзець, што канкрэтна цябе сюды прывяло,*** – дадае кс. Яўген. – ***Ва ўсякім разе я ўпэўнены, што такая з'ява, як пакліканне, існуе. Веру, што Пан ад пачатку праектуе твае здольнасці і характар, мае бачанне твайго жыцця. Аднак яшчэ больш люблю Бога за Яго далікатнасць. Так як любоў даражыць свабодай, так і Нябесны Айцец будзе благаслаўляць цябе на любым шляху, які б ты ні абраў".***

Кс. Яўгену прыйшлося шмат рызыкнуць толькі дзеля спробы адкрыць у сабе святара. Затое цяпер яго парады цалкам апраўданы і заслугоўваюць даверу: выходзьце з зоны камфорту і рызыкуйце. ***"Здаровая рыба плыве супраць цячэння. Думайце сваёй галавой і не бойцеся памылак. Толькі так вы не прапаліце жыццё і будзеце шчаслівыя",*** – адзначае на заканчэнне святар.

***Працяг гісторый пакліканняў да святарства ў наступным нумары.***
***Калі хочаце падзяліцца, да чаго Бог паклікаў Вас і як распазнавалі свой шлях, дасылайце свае гісторыі на адрас рэдакцыі.***

# АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

## Вэбінары па абароне дзяцей у межах Года сям'і

Святы Пасад супрацоўнічае з ініцыятывай па арганізацыі інтэрнэт-курсаў па абароне дзяцей. Праект рэалізуецца ў межах Года сям'і.

Серыю такіх вэбінараў арганізавала Сусветная унія каталіцкіх жаночых арганізацый. Фармацыйная ініцыятыва ладзіцца з мэтай "нанова паказаць свету Божы план для сям'і". Менавіта сям'я паклікана абараняць аўтэнтычныя адносіны, якія нараджаюцца ў любові і спрыяюць здароваму сталенню чалавека.

## "Angelus" і папскія аўдыенцыі на мове жэстаў

"Малітва «Анёл Панскі» і агульныя аўдыенцыі Святога Айца будуць тлумачыцца на мову жэстаў", – паведаміла Зала Друку Святога Пасаду. Спачатку з'явяцца дзве версіі: італьянская і амерыканская.

Ініцыятыва рэалізуецца ў межах праекта "Ніхто не выключаны", мэта якога – данесці пасланне Папы да людзей з праблемамі слыху.

Ініцыятыва ватыканскіх СМІ з'яўляецца адказам на заклік Святога Айца да развіцця адпаведных і даступных спосабаў перадачы веры. Пра гэта папа Францішак напісаў у сваім апошнім пасланні да Міжнароднага дня людзей з інваліднасцю.

Канал YouTube з мовай жэстаў не стане апошняй прапановай. У бліжэйшыя месяцы будзе прадстаўлена мабільная прылада ватыканскіх СМІ для асоб з парушэннямі пачуццяў, у прыватнасці для сляпых і людзей са слабым зрокам.

## Прадмова ад Папы да кнігі пра барацьбіта з мафіяй

Святы Айцец напісаў прадмову да кнігі пра італьянскага суддзю Разарыа Анджэла Ліваціна, забітага мафіяй. "Сведчанне яго жыцця запрашае нас усіх адчуваць сябе братамі", – напісаў папа Францішак.

Суддзя Ліваціна адкрыта прызнаваў, што яго барацьба з мафіяй, якая дамінавала на Сіцыліі ў 1980-ых гадах, была абумоўлена хрысціянскай верай і прафесійнай добрасумленнасцю. Яго дзеянні і словы былі настолькі эфектыўныя ў барацьбе супраць мафіёзі, што тыя замовілі яго забойства. 21 верасня 1990 года 38-гадовы суддзя быў застрэлены непаўналетнімі забойцамі па замове Коза Ностры.

Святы Айцец падкрэсліў, што Ліваціна – гэта прыклад не толькі для суддзяў і юрыстаў. "Ён з'яўляецца ўзорам для пераймання для маладых людзей, якіх мафіёзныя структуры прыцягваюць завабліваць жыццём гвалту, карупцыі і смерці. Няхай яго пакутніцкае сведчанне веры будзе зернем гармоніі і сацыяльнага міру, знакам, які запрашае ўсіх стаць братамі", – напісаў Францішак у тэксце прадмовы.

## Малітоўныя інтэнцыі на красавік

### паўсюдная

Молімся за асоб, якія падвяргаюць сваё жыццё небяспецы, змагаючыся за асноўныя правы ў дыктатурах, аўтарытарных рэжымах і нават у дэмакратыях, якія перажываюць крызіс.

### дыяцэзіяльная

Молімся, каб Пан благаславіў земляробаў нашай дыяцэзіі і абараніў нас ад голаду.

# С. ВОЛЬГА ДАНЬКОЎСКАЯ CSFN АДЗНАЧЫЛА 25-ГОДДЗЕ МАНАСКАГА ЖЫЦЦЯ


grodnensis.by

**10 красавіка ў гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі адбылася ўрачыстасць з нагоды сярэбранага юбілею манаскага жыцця с. Вольгі Данькоўскай, назарэтанкі.**

Сястра паходзіць з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску. Служыла ў многіх месцах Беларусі, а таксама ва Украіне. У апошні час несла паслугу пры Нацыянальным санктуарыі Маці Божай у Будславе, а цяпер будзе служыць у Гродне.

На ўрачыстасці сабраліся сёстры назарэтанкі, бацькі і родныя с. Вольгі, святары і вернікі, якія пажадалі ў гэты дзень падтрымаць яе сваімі малітвамі і падзякаваць Богу за яе жыццё і служэнне. Св. Імшу падзякі ўзначаліў Генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі біскуп Юзаф Станеўскі. У гаміліі іерарх адзначыў, што кансэкраванае жыццё – гэта пакліканне да вернай паслухмянасці кожны дзень, а крочанне за Езусам з'яўляецца не такім рашэннем, якое прымаецца раз і назаўсёды, а штодзённым выбарам.

Звяртаючыся да с. Вольгі, біскуп Юзаф падкрэсліў, што адначасова яна адчула на сабе позірк Езуса, які запрасіў да дыялогу, на што яна адказала з раскрытымі абдымкамі і адважна прыняла дар Пана. Іерарх заахвоціў назарэтанку нястомна дзякаваць за гэты дар і ласку Усемагутнаму Богу і не расставацца з Ім, бо Ён Крыніца надзеі.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ЛІВАН.** Кардынал Бешара Бутрас Раі заклікае да ўмяшання ААН ва ўрэгуляванне крызісу ў Ліване. Мараніцкі Патрыярх правёў размову на гэтую тэму з генеральным сакратаром Арганізацыі Антоніу Гутэрышам. Іерарх адзначыў, што палітычны клас краіны не змог сесці за стол перамоў і сумесна прапанаваць канцэпцыю выхаду з крызісу. Тым часам сітуацыя пагаршаецца. Беднасць і голад пашыраюцца. "Ліван знаходзіцца на мяжы катастрофы", – папярэдзіў Патрыярх, просячы аб дапамозе. Антоніу Гутэрыш запэўніў у зацікаўленасці міжнароднай супольнасці сітуацыяй у Ліване і звярнуў увагу на неабходнасць фарміравання ўрада ды прадухілення ўдзелу краіны ў іншых рэгіянальных канфліктах.

**ІТАЛІЯ.** Арцыбіскуп Катаніі (Сіцылія) Сальватору Грысціна прыняў рашэнне часова (на тры гады) скасаваць прысутнасць хросных пры здзяйсненні сакрамантаў хросту і канфірмацыі. Сваё рашэнне, апублікаванае з дапамогай спецыяльнага дэкрэта, іерарх абгрунтоўвае тым, што "ў гэтым грамадска-касцёльным кантэксце прысутнасць хросных маці і бацькі часта становіцца своеасаблівай фармальнасцю або сацыяльнай традыцыяй, у той жа час зацямняецца іх духоўнае вымярэнне". Такім чынам арцыбіскуп Грысціна прагне "вызначыць магчымасць аднаўлення касцёльнай ідэнтычнасці хросных і іх місіі".

**ПОЛЬШЧА.** "Карытас" Польшчы адкрывае місію ў Емене. Будзе падтрымліваць аздараўленчы цэнтр. У планах на гэты год – падтрымка медыцынскага цэнтра ў Імране і ахопліванне ім яшчэ трох устаноў у губернатарстве Адэн. Патрэбны будуць сродкі на рамонтныя работы, у тым ліку водазабеспячэнне, абсталяванне (медыцынская апаратура і матэрыялы, лекі) і заработную плату персаналу. Емен – самая бедная краіна на Блізкім Усходзе і адна з найбяднейшых у свеце. З 2015 года тут вядзецца грамадзянская вайна са складанай палітычна-этнічнай падставай, у якой ужо пацярпелі больш за 230 тысяч чалавек.

**МАНГОЛІЯ.** У Манголіі ўсяго 8 парафій і 1300 католікаў. Нягледзячы на тое, што апостальская дзейнасць у гэтай краіне пачалася толькі 29 гадоў таму, пасля падзення камуністычнага рэжыму, яе плён уражвае. Душпастырам няпроста апекавацца сваімі парафіямі ва ўмовах пандэміі. Аднак яны падыходзяць да гэтай тэмы з вялікай крэатыўнасцю. Стварылі, між іншым, катэхезы з улікам бягучай сітуацыі. Яны арганізаваны ў 5-асабовых групах, што з'яўляецца максімальна дапушчальнай колькасцю падчас абмежаванняў, і заснаваны на пісьмовых тэкстах і відэа, якія дасылаюцца асобным катэхізаваным. Манголія – краіна ў 5 разоў большая за Італію, але налічвае крыху больш за 3 мільёны жыхароў.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# АЗЁРЫ

працяг са с. 1

*Андрэй Вашкевіч*

На плошчы мястэчка Азёры побач стаяць праваслаўная царква і каталіцкі касцёл. Гэта важны сімвал рэлігійнага міру, які пануе ў нашай краіне. Так было і больш за шэсць стагоддзяў таму, калі праваслаўныя і каталікі прыйшлі ў лясны край і пачалі засвойваць пушчу, што атрымала назву Гродзенскай.

Азёры – адно з самых старых мястэчак у ваколіцах Гродна. Яно згадваецца яшчэ ў канцы XIV стагоддзя ў справаздачах крыжацкіх шпіёнаў, якія планавалі напады на Вялікае Княства Літоўскае і хацелі выведаць маршруты ўглыб нашай дзяржавы. Каталіцкай парафіі ў той час, у XV стагоддзі, у Азёрах яшчэ не было, але, хутчэй за ўсё, ужо існавала філіяльная капліца, якая належала да фарнай парафіі ў Гродне.

Асобная парафія ў Азёрах паўстала ў 1676 годзе. Праз некалькі гадоў быў пабудаваны драўляны касцёл Маці Божай Ружанцовай, а парафія атрымала фундуш – 212 дзесяцін зямлі з каралеўскіх валоданняў.

У XVIII стагоддзі пушчу працягвалі актыўна засвойваць. Ствараліся прадпрыемствы па здабычы жалезнай руды (адсюль вёскі з назвай Руда, Рудня), вытворчасцю дзёгцю, поташу, а таксама лесапілкі. Таму выраслалі і населеныя пункты ў вялікакняскай пушчы. Напрыклад, у апісанні азёрскай парафіі 1784 года згадваюцца два вадзяныя млыны, пры дапамозе якіх не толькі малолі збожжа, але і апрацоўвалі сукно, і пілілі бярвенне. Ужо тады ў парафію ўваходзіла каля 30-ці населеных пунктаў: каралеўскія двары, шляхецкія засценкі, вёскі рымска-каталіцкага і грэка-каталіцкага абрадаў.

У першай палове XIX стагоддзя мястэчкам валодалі Валіцкія, якая пераняла сабе фундуш азёрскага касцёла, але павінны былі плаціць штогод пэўную суму касцёлу. Пасля паўстання 1863 года, у якім жыхары Азёраў прынялі дзейсны ўдзел, усе землі Валіцкіх (каля 10 тысяч дзесяцін) былі канфіскаваны ў казну, а касцёл на некаторы час быў зачынены царскімі ўладамі. Аднак ужо пад канец 1860-ых гадоў парафія аднавіла сваю дзейнасць.

Пасля І Сусветнай вайны тагачасны пробашч азёрскай парафіі кс. Францішак Куксевіч стварыў камітэт аднаўлення святыні і пачаў збіраць сродкі на яе рэстаўрацыю. Дзякуючы яму на азёрскі касцёл як на цікавы ўзор драўлянага дойлідства звярнулі ўвагу члены Камісіі па апецы над помнікамі мастацтва і культуры Гродзеншчыны. Кіраваў ёю павятовы інжынер Уладзіслаў Герман, а сакратаром быў вядомы гісторык і заснавальнік гродзенскага музея Юзаф Ядкоўскі. Камісія прыйшла да высновы, што збудаваны ў 1679 годзе касцёл Маці Божай Ружанцовай можа абваліцца, і хадайнічала перад чыгуначнікамі аб бязвыплатным выдзяленні на яго рамонт 50-ці кубаметраў дрэва.

Да пачатку ІІ Сусветнай вайны азёрскі касцёл быў грунтоўна адноўлены, аднак, на вялікі жаль, згарэў летам 1944 года падчас вайсковых дзеянняў. Пасля вайны і арышту святара з Новай Руды, які час ад часу праводзіў набажэнствы ў Азёрах, мясцовыя католікі самі арганізоўвалі сваё рэлігійнае жыццё. У 1962 годзе ў іх забралі апошняе месца малітвы – ацалелы мураваны парафіяльны будынак, і на працягу амаль 40-ка гадоў у Азёрах не было ні святара, ні касцёла.


*Касцёл Маці Божай Ружанцовай да 1944 г.*

У 1991 годзе ў Азёры прыбыў кс. Станіслаў Гаўлік, які разам з мясцовымі жыхарамі пачаў працэс будовы новага касцёла і адраджэння каталіцкага жыцця. У 1992 годзе пачалося будаўніцтва святыні, і 23 лістапада 1997 года новы азёрскі касцёл Хрыста Валадара быў цалкам скончаны.

# СУПРАЦОЎНІК ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАГА ВЫДАВЕЦТВА АЛЯКСАНДР КУЗНЯЦОЎ: "ТРЭБА АБУДЖАЦЬ У ЛЮДЗЯХ КНІЖНЫ ГОЛАД"

*працяг са с. 1*

**Размаўляем пра чытанне і беларускіх католікаў з Аляксандрам Кузняцовым – шматгадовым перакладчыкам і супрацоўнікам выдавецтва Гродзенскай дыяцэзіі.**

*Арцём Ткачук*



### Я ПРОСТА НЕ БАЧУ ЦЯПЕР ПЕРАШКОД, КАБ НЕ ЧЫТАЦЬ

***– Што значыць для веруючага чалавека чытанне? Ці можна спазнаваць Бога без кніг?***

– Тэарэтычна – можна. Мы ж ведаем, што, напрыклад, у старажытныя часы было некалькі пакаленняў непісьменных хрысціян. Але з іх шэрагаў выйшла столькі святых! Яны сэрцам чулі Добрую Навіну. Добрая воля і добрае сэрца – вось, што лічыцца ў першую чаргу. Мне падабаецца цытата айца Піо, які казаў: "Бога шукаюць у кніжках, а знаходзяць у малітве". Таму думаю, можна Бога спаткаць і без кніг.

На практыцы ж "вера нараджаецца са слухання". Таму чалавек павінен слухаць пра веру: альбо праз пропаведзі, альбо праз чытанне.

***– То-бок неабходна знайсці пэўны баланс: не згубіцца ў кнігах, але і не згубіць кнігу?***

– Так. Калі проста сядзіш у кнігах, але не рэалізуеш атрыманыя веды ў жыцці, не молішся, не размаўляеш з Богам – гэта нейкая анамалія. Усё, што чытаеш, трэба "прамольваць". Павінен быць баланс чытання, слухання і малітвы, дыялогу з Богам, каб "заглытванне" кніжак не стала нейкім інтэлектуальным назапашваннем ведаў.

Існуе такая спакуса: калі я нешта ведаю, пазнаў больш – значыць духоўна ўзрос. Але гэта не заўсёды так працуе. Можна мець шмат ведаў, аднак не мець элементарных цнотаў – пакоры, цярплівасці, умеранасці.

***– Я рызыкнуў калісьці думкай, што ў XXI стагоддзі нечытанне для хрысціяніна – грэх. Пагадзіцеся?***

– Пагаджуся. А што можа замінаць чытаць? Непісьменнасць? Думаю, святыя, пра якіх узгадваў, не чыталі кніг найперш з-за таго, што тыя былі для іх недаступныя, а таксама з-за звыклай неадукаванасці. Мы ж усе граматныя, да таго ж кнігі сёння даступныя як ніколі. Няма часу? Можна зазірнуць у кнігу, пакуль едзеш на працу ў грамадскім транспарце, перад сном... Літаральна на 10-15 хвілін. Са свайго досведу ведаю, што можна знайсці гэты час. Я проста не бачу цяпер перашкод, каб не чытаць.

Дарэчы, калі заглянем у старыя малітоўнікі з вялікім рахункам сумлення, знойдзем там пытанні накшталт "Ці чытаю я літаратуры?", "Ці маю час на духоўнае чытанне, на чытанне Святога Пісання?". Цяпер не ведаю, ці ўвогуле хтосьці спавядаецца з таго, што не чытае духоўныя кнігі, не пашырае свае рэлігійныя веды.

### КНІГІ З'ЯЎЛЯЮЦЦА ВАЖНЫМ ІНСТРУМЕНТАМ ЕВАНГЕЛІЗАЦЫІ

***– У звязцы са словам „чытанне" ў Касцёле ідзе слова „фармацыя". А ці магчыма фармацыя хрысціяніна без чытання?***

– Ізноў жа, тэарэтычна – так. Калі ў чалавека ёсць добрае духоўнае кіраўніцтва, ёсць начытаны і дасведчаны кіраўнік, які вядзе яго праз размовы і споведзь, гэта магчыма. Аднак у сучасным свеце такі паток інфармацыі, што, мне падаецца, без чытання добрай кнігі (а ёсць жа і нядобрыя, пустыя), цяжка зарыентавацца. Таму сёння гэта хутчэй выключэнне.

***– Кніга Вільгельма Хюнермана "Перамоглы д'ябла" пра св. Віянэя стала адной з найбольш папулярных пазіцый, выдадзеных дыяцэзіяльным выдавецтвам. Прызнаюся, у маім жыцці яна адыграла важную ролю – малым хлопцам я прачытаў яе і да сёння лічу, што шлях маёй веры пасля гэтага набыў новую траекторыю. Гэта частая гісторыя з кнігамі?***

– Бясспрэчна! Я сам дасведчыў гэта ў асабістым жыцці, прычым не з адной кнігай. А з досведу размоў з чытачамі на кірмашах у Будславе і Тракелях, магу сказаць, што людзі часта падыходзяць і хваляць гэтую кнігу, кажуць, што яна іх кранула, што перажылі нейкі інтымны дотык Бога праз яе.

Па-мойму, кнігі з'яўляюцца важным інструментам евангелізацыі. Даволі рэдка бывае, што чалавек ідзе па дарозе, і раптам перад ім раскрываюцца нябёсы, як перад св. Паўлам, і аб'яўляецца Езус. Бог датыкаецца да нас праз штосьці альбо кагосьці: праз размову, нейкую падзею, праз казанне ці літаратуру... Парадыце чалавеку кнігу ці проста дайце пачытаць. Ён можа цяпер і не адкрыць яе ўвогуле, але гэта стварае прастору. Чалавек усё роўна калісьці прыйдзе да яе. І праз гэта Бог зможа дакрануцца да яго.

***– Падаецца, што ў плане евангелізацыі пратэстанты, напрыклад, на кнігі робяць большы націск, чым каталікі. Пратэстантаў нашмат менш у Беларусі, а кніг выдаюць больш. У чым справа?***

– Гэта наша лакальная праблема, не сусветная. Чаму так у Беларусі? Маю пэўныя свае думкі наконт праблемы, але скажу толькі, што трэба прыкладаць намаганні, каб сітуацыя змянілася. Гэта задача для ўсіх: і для духавенства, і для свецкіх людзей.

### ТЫЯ, КАМУ МАЛА БЫЦЬ РАЗ НА ТЫДЗЕНЬ У КАСЦЁЛЕ, ЧЫТАЮЦЬ

***– Вы ўзгадалі, што бываеце з выдавецтвам на розных фэстах, куды прыходзяць людзі і цікавяцца кнігамі. Што пытаюць? Як выглядае стандартны дыялог?***

– Некаторыя прыходзяць з нейкімі канкрэтнымі патрэбамі, напрыклад: "Хацелася б пачытаць пра сям'ю", "Дайце што-небудзь, каб мужу было цікава пачытаць", "Парайце штосьці для падлетка" ці "Мне патрэбна нешта для мужа, які не ходзіць у касцёл"... Некаторыя просяць расказаць пра тое ці іншае выданне, глядзяць, перабіраюць. Бывае, проста кажуць: "А дайце мне што-небудзь пачытаць". Я тады пытаюся: "Вам увогуле нейкую мастацкую літаратуру ці штосьці духоўнае?" – ну і пайшоў далей дыялог. А часам падыходзяць людзі, якіх уразіла нейкая кніга. І яны стаяць з намі 20-30 хвілін і ўсім, хто падыходзіць, расказваюць пра яе, раяць. Тады людзі ахвотней бяруць.

***– Атрымліваецца, што каталікі таксама ўспрымаюць кнігу як інструмент, дапамогу ў нейкіх справах. Для іх чытанне – гэта чытанне дзеля чагосьці, а не чытанне дзеля чытання?***

– Так, гэта асаблівасць рэлігійнай кнігі. Для задавальнення чытаюць мастацкую літаратуру, каб адвесці думкі ад штодзённых праблем. Рэлігійная ж звязана з патрабаваннямі душы. Яна павінна наталяць унутраны голад. Нават калі чытаеш каталіцкую мастацкую літаратуру, усё роўна чакаеш, што кніга павядзе цябе нейкім шляхам. З добрай кнігай так і адбываецца.

***– Практыкуючыя каталікі чытаюць больш за іншых беларусаў? Ці можна сказаць, што каталіцкі вернік больш начытаны, чым сярэднестатыстычны беларус?***

– Я ведаю няверуючых людзей, якія паглынаюць кнігу за кнігай: дэтэктывы, фэнтэзі, раманы... Аднак усё гэта пустое. Што ім дае прачытанае?

Адназначна, што тыя, хто вядзе больш паглыбленае духоўнае жыццё, каму мала быць раз на тыдзень у касцёле, хочуць чытаць, шукаюць кнігі. І на жаль, наша прапанова не заўсёды можа наталіць іх літаратурны голад.



**ТОП 5 КНІГ ГРОДЗЕНСКАГА ВЫДАВЕЦТВА АД АЛЯКСАНДРА КУЗНЯЦОВА**

**"Будь мужчиной"** *а. Лары Рычардса. Яе б адназначна раіў мужчынам. Прачытаеш – і быццам перажыў добрыя рэкалекцыі.*

**"История одной души"**, *аўтабіяграфія св. Тэрэзы.*

**"Руководство к благочестивой жизни"** *св. Францішка Сальскага і* **"О подражании Христу"**, *трактат Фамы Кемпійскага. Гэта такая класіка, якую кожны павінен мець, звяртацца да яе, разважаць над ёю. Першую я б нават параіў больш. "Руководство" больш практычнае і напісана для свецкіх людзей. "О подражании" было напісана хутчэй для манахаў, там духоўнасць больш аскетычная.*

**"Веруешь ли ты в Сына Божия?"**. *Яе складаў кс. Тадэвуш Крыштопік. Ён выкарыстоўваў розныя крыніцы. Гэта добры катэхізіс. Кніга дае адказы на розныя пытанні веры.*

**Аляксандр Кузняўцоў: перакладчык і супрацоўнік выдавецтва Гродзенскай дыяцэзіі з 2001 года. Удзельнічаў у выданні больш за 100 кніг. Муж і бацька траіх дзяцей, член групы "Мужчыны св. Юзафа".**

### ЖАНЧЫНЫ АДНАЗНАЧНА ЧЫТАЮЦЬ БОЛЬШ

***– У Касцёле жанчын відавочна больш, чым мужчын. Гэта, хіба, агульная рыса, і Беларусь не выключэнне. А ў чытанні гэтыя дысбаланс такі ж? Хто чытае больш – каталічкі ці каталікі?***

– Па маіх назіраннях, адназначна каталічкі чытаюць больш. У Будславе ці Тракелях рэдка які мужчына падыдзе да нашага кіёска з літаратурай і скажа: "Я шмат вашых кніжак прачытаў, парайце мне што-небудзь яшчэ". Не памятаю таксама, каб мужчыны падыходзілі і прасілі: "Дайце штосьці пачытаць для жонкі". Думаю, гэта агульначалавечая праблема. Не магу патлумачыць, чаму так, але факт застаецца фактам: ва ўсім свеце жанчыны чытаюць больш. Можа, такая прыродная цікавасць?

***– А мужчыны ўсё ведаюць і без кніжак?***

– Не, вядома ж. Але, думаю, у кантэксце Касцёла і веры можна аднесці гэтае пытанне да агульнай праблемы: чаму ў Касцёле мужчын менш, чым жанчын? Чаму для мужчын вера менш цікавая? Трэба задавацца такімі пытаннямі і мэтанакіравана працаваць над імі. Неабходна адмысловае душпастырства мужчын. Але гэта ўжо іншая тэма.

***– А якія ўзроставыя групы, на Вашу думку, чытаюць больш: моладзь, сямейныя, сталыя, пенсіянеры?***

– Мне здаецца, што жанчыны сярэдняга ўзросту. Але баюся памыліцца.

### ПРА МАЛАЛІКАСЦЬ БЕЛАРУСКІХ КАТАЛІЦКІХ АЎТАРАЎ

***– У нас амаль не друкуюцца лакальныя аўтары. Мы больш перакладаем, друкуем класіку. У чым справа?***

– Думаю, гэта адлюстраванне ўвогуле стану мясцовага Касцёла. У нас мала сур'ёзнай каталіцкай інтэлігенцыі, прафесараў, выкладчыкаў. Па-другое, усё-такі, напэўна, прасцей узяць нейкую гатовую кнігу, а не выдумляць штосьці самому.

***– Мы чытаем шмат амерыканскіх аўтараў, і яны ж не ўсе акадэмікі. Гэта часта простыя людзі, якія нешта ў жыцці перажылі і маюць што сказаць, таму сядаюць і апісваюць свае духоўныя перажыванні. Чытаеш такія рэчы і разумееш, што гэта неблагія кнігі і што не суперцяжка напісаць падобнае. Можа, у нас тыя, хто мог бы пісаць, недастаткова смелыя, каб узяцца за напісанне кнігі?***

– У нас ёсць вялікая падазронасць да свецкіх асоб. Дзе Вы тут бачылі, каб рэкалекцыі ці нейкую канферэнцыю праводзіла свецкая асоба? Хіба што толькі на тэму сям'і ці сексуальнасці – гэта ўсё ж такі вельмі свецкая сфера.

Некаторыя святары спрабавалі прыцягваць свецкіх да дзялення духоўным вопытам у парафіях (і іх сведчанні былі сапраўды прыгожымі), але з боку слухачоў адчувалася насцярожанасць тыпу "а хто ты такі і чаму будзеш мяне вучыць?". Да свецкай асобы заўсёды ёсць нейкая дыстанцыя: ты такі ж, як я, што ты мне будзеш казаць? У нашым Касцёле свецкія асобы яшчэ не маюць належнага статуса.

***– А што з аўтарамі-духоўнымі асобамі? Мне падаецца, святары і сёстры ў нас пішуць больш, але гэта ўсё роўна адзінкі.***

– Калі паглядзець на выданні мясцовых святароў, то нельга сказаць, каб іх не чыталі. Такія кнігі добра разыходзяцца. Але чаму не пішуць больш, не магу сказаць.

***– Часта можна пачуць такое выказванне: "Ніхто не чытае, усе ў тэлефонах". А іншыя кажуць, што ў Беларусі няма праблем з чытаннем. Думаю, пэўная частка людзей (вядома ж, не ўсе!) заўсёды чытае. Як, дарэчы, усюды. А што з каталікамі?***

– З аднаго боку, трэба прызнаць, што людзі сапраўды чытаюць няшмат. Але з іншага – ці ўся віна ляжыць на іх саміх? Я бачу, напрыклад, што калі ў парафію прыязджае ксёндз, праводзіць рэкалекцыі ці выступае з гаміліямі і раіць нейкую кнігу, вернікі натоўпамі ідуць і набываюць яе. Мне падаецца, што ў нас у Касцёле яшчэ не ўзнята пытанне адносна стымулявання і развіцця культуры чытання сярод людзей.

Таксама здаецца, што тут няма атмасферы чытання, няма такога, каб абмяркоўвалі кнігі. Не існуе традыцыі, што вось ёсць нейкае папулярнае выданне, і ўсе пра яго гавораць. Да таго ж людзям часта проста не хапае штуршка, своеасаблівай рэкламы. Напрыклад, няма прыкасцёльных кніжных лавак. Чалавек не заўсёды можа даехаць у Гродна ці Мінск і набыць літаратуру. На кірмашах у Будславе і Тракелях яскрава бачу, што за кнігамі прыходзяць, перадусім, людзі з правінцыі.

Важна распавядаць вернікам пра кнігі. Добра было б нават казанне па якіх-небудзь выданнях рабіць. Людзі б чыталі больш ахвотна. Як кажуць, "апетыт прыходзіць падчас ежы". Так і з літаратурай. Чалавек на працягу месяца-двух штосьці чытаў, і жыццё было напоўнена ведамі, святлом кнігі, а потым адклаў яе – і з'явілася пустка. Ён пасмакаваў адну кнігу, другую – і пачынае фарміравацца голад. Таму я лічу, што трэба дапамагаць людзям. Не ўсё так безнадзейна. Праблемы ёсць, але трэба толькі прыкласці намаганні.

# 30-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ ДЫЯЦЭЗІІ:
## ЗАКРЫСТЫЯНІН НА ПЛЯЦЫ ХРЫСТА ТАДЫ І ЦЯПЕР

працяг са с. 1

**Сёлета 13 красавіка святкуем 30-гадовы юбілей Гродзенскай дыяцэзіі, шлях да ўзнікнення якой быў цярністы, але таму, магчыма, і больш плённы. Вернікам Гродзеншчыны давялося прайсці праз складаны перыяд ціску "чырвонай" сістэмы на Касцёл: людзі заставаліся без святынь, без святароў. Аднак веру не згубілі, пра што сведчыць 30-гадовы досвед духоўнага адраджэння. А хто можа быць лепшым сведкам і аднаго, і другога перыяду, як ні той, хто заўсёды сціпла стаіць збоку алтара, уважліва назіраючы за Таямніцай, што адбываецца ў двух кроках ад яго?**

*Ангеліна Марцішэўская паводле grodnensis.by*





*Папскі медаль "Benemerenti" (Заслужаным). Іх атрымліваюць людзі, якія зрабілі вялікі ўклад у развіццё Касцёла. Гэтую адзнаку мае і спадар Стэфан Ядкоўскі*

grodnensis.by

Часцей за ўсё, гэта сталы мужчына ў старамодным, але акуратным гарнітуры, паверх якога апранута комжа. На працягу стагоддзяў яго называлі наглядчыкам, касцёльным, парцье, ключнікам, званаром і нават "анёлам-ахоўнікам". Але найбольш распаўсюджаная назва – закрыстыянін.

### ТРЫМАЮЧЫ АБАРОНУ

У часы савецкага атэізму, калі ў гродзенскім фарным касцёле не было ані пробашча, ані вікарыя, закрыстыянін падрыхтоўваў сакральную прастору: клаў на алтар арнат – сімвал прысутнасці ксяндза, прыносіў неабходныя літургічныя кнігі і сачыў за парадкам. Прысутныя чыталі ўрыўкі з Евангелля, маліліся, спявалі, а прымаць св. Камунію хадзілі ў суседні касцёл – пабернардынскі.

Пра паслугу закрыстыяніна ў савецкі перыяд распавядае спадар Стэфан Ядкоўскі, наглядчык з 25-гадовым стажам пры пабрыгіцкім касцёле ў Гродне. *"Калі я прыехаў жыць у горад, загарэўся ідэяй дабіцца ад улад дазволу на аднаўленне дзейнасці пабрыгіцкага касцёла. За справу ўзяліся разам з маёй сястрой, якая ў той час была настаяцельніцай у манахінь назарэтанак. Звярталіся ў мясцовы гарвыканкам, месяцамі чакалі сваёй чаргі, каб трапіць з візітам да кіраўніцтва ў Мінску. Пасля ўсёй парафіяй збіралі мне грошы на білет у Маскву, каб там прасіў дазволу, але ўсюды мне ўказвалі на дзверы"*, – узгадвае закрыстыянін.

Тры гады абівання парогаў "вялікіх начальнікаў" – і ўсё марна. Заставаўся толькі малітоўны штурм. *"Мы амаль штодня пачалі збірацца кампаніямі каля сотні чалавек у будынку гарвыканкама і… адгаворваць Ружанец. Хто ў калідоры стаяў, хто на лесвічнай клетцы – і ўсе з пацеркамі ў руках і ціхай малітвай на вуснах"*, – дзеліцца спадар Стэфан. І праз некалькі тыдняў здарыўся цуд: яго выклікалі ў кабінет і зачыталі рашэнне – вярнуць касцёл парафіянам.

### ЗАЎСЁДЫ НА ВАРЦЕ

Дзякуй Богу, сёння касцёлы поўняцца і падчас набажэнстваў, і пасля іх. Хтосьці забягае ў вольную хвілінку, каб запісаць сваю інтэнцыю. А камусьці стала блага на душы і неабходна зараз жа трапіць у Божы дом, каб адкрыцца Усявышняму. Таму закрыстыянін не пакідае святыню і пасля Імшы – чакае візіцёраў.

*"Здараецца, п'яны зазірне. Я яго не праганяю. Пагавару з ім, абдыму, суцешу. Не проста так ён да Бога нецвярозы прыйшоў: мабыць, здарылася штосьці. А пасля запрашаю ізноў наведаць касцёл, толькі раю не выпіваць перад гэтым"*, – адзначае суразмоўца.

Адзін з галоўных заняткаў закрыстыяніна – падрыхтоўка неабходных літургічных рэчаў перад пачаткам св. Імшы. Усё да дробязей трэба прадугледзець: стужкі ў кніжкі паўкладаць, каб святар хутка арыентаваўся, адкуль Евангелле чытаць, адкуль псальм спяваць. Неабходна і іншага роду падтрымка, звязаная з цэлебрацыяй, напрыклад, пры апрананні святара перад літургіяй. *"Калі ксёндз малады, то і сам справіцца, а як старэйшы, то пояс сам не падвяжа, трэба дапамагаць"*, – дадае з усмешкай спадар Стэфан.

### УНІВЕРСАЛЬНЫ САЛДАТ

Часта закрыстыяніну даводзіцца аднachасова выконваць абавязкі і вартаўніка, і электрыка, і слесара, і цесляра, і дэкаратара. Напрыклад, у гродзенскай катэдры на працягу пэўнага часу з абслугі касцёла быў толькі адзін чалавек. Прыходзіў у катэдру а 6-ай гадзіне раніцы, а вяртаўся дадому каля 9-ай вечара.

І гэта не дзіўна. У адзін з перыядаў у малой базіліцы св. Францішка Ксаверыя цэлебравалася да 12-ці Імшаў штодня. Такі ўсплёск рэлігійнай актыўнасці нашых вернікаў уражвае, але патрабуе і большай ахвярнасці з боку слуг Хрыста. Закрыстыяніну трэба было прысутнічаць у касцёле без выхадных. Аднак можна меркаваць, што падобнае адданае стаўленне вернікаў да мясцовага Касцёла і паслужыла таму, што дыяцэзія святкуе чарговы юбілей і ганарыцца шматлікімі дасягненнямі.

Столькі ж часу ў святыні праводзіў і спадар Стэфан. ***"Часам даводзілася і начаваць на месцы, у падвале касцёла***, – узгадвае ён. – ***Надта шмат абавязкаў было: і палы мыў, і кветкі вырошчваў, і ежу гатаваў – на стол накрываў для гасцей, і магазінчык трымаў з дэвацыяналіямі"***. А ў краме, між іншым, ён прадаваў свечкі. Спачатку купляў іх оптам у Вільні, а пасля падгледзеў працэс вытворчасці і пачаў сам выплаўляць свечкі з парафіна і агаркаў – ***"нашто, каб нешта марнавалася?"***.

Колькасць абавязкаў закрыстыяніна ў значнай ступені залежыць ад характару святыні, якой ён апекуецца. Але ў кожным выпадку "касцёльны" павінен заставацца руплівым служачым і чалавекам малітвы, які, падобна спадару Стэфану, паклаў сваё сэрца, розум і працу ў ахвяру на алтар Хрыста.

Закрыстыянін можа служыць адлюстраваннем кожнага свецкага чалавека, які з адказнасцю ставіцца да сваёй парафіі. І калі кожны з нас будзе не нядзельным наведвальнікам святыні, але вернікам, які ідзе ў касцёл, як у свой дом, то і прычыны святкаваць дзень нараджэння дыяцэзіі будзем знаходзіць не штодзесяцігоддзе, а штогод.

# УЗОР ПРАЦАВІТАСЦІ І ПАКОРЫ

**Большасць свайго часу мы праводзім на працы, а таксама ідучы на яе і вяртаючыся дадому. Аднак даследаванні паказваюць, што, хоць людзі працуюць больш, атрымліваюць ад гэтага ўсё менш радасці. Адсюль можна зрабіць розныя высновы, але відавочна адно: штодзённая праца для многіх людзей пазбаўлена глыбокага сэнсу.**

**Акрамя таго, доўгія гадзіны, праведзеныя на працы, могуць выклікаць разлад дома – сваркі паміж мужам і жонкай ды пачуццё занядбанасці ў дзяцей. Аднак з іншага боку медаля маем цяжкі вопыт адсутнасці фінансавай бяспекі, калі бацькі застаюцца без працы альбо вымушаны працаваць у некалькіх месцах, каб звесці канцы з канцамі. Не выклікае сумненняў, што захаванне балансу паміж працай і домам – справа няпростая.**

*Кс. Юрый Марціновіч*



fathersofmercy.com

Май – гэта не толькі час, калі Касцёл асабліва ўшаноўвае Найсвяцейшую Панну Марыю, але і месяц, які пачынаецца са свята св. Юзафа Рамесніка. Ён можа быць прывабным прыкладам для нас, якія імкнёмся да балансу паміж прафесійнымі патрабаваннямі і пакліканнем ствараць бяспечны ды спакойны дом, поўны радасці і веры – сапраўдны "хатні касцёл". Тым больш, што мы зараз перажываем Год св. Юзафа, які абвясціў Святы Айцец Францішак.

### СЯМ'Я ЯК ПРЫКЛАД ПРАЦЫ

Св. Юзаф прыняў унікальнае пакліканне быць мужам Марыі і зямным бацькам Езуса. Бог выбраў яго, каб стаў апекуном і ахоўнікам Святой Сям'і ды забяспечыў іх сродкамі для жыцця дзякуючы сваёй працы цесляра. Чаму ў сваім пакліканні могуць навучыцца бацькі ад гэтага чалавека, ніводнае слова якога не зафіксавана ў Святым Пісанні?

Падчас сваёй інаўгурацыйнай гаміліі 19 сакавіка 2013 года папа Францішак задаў пытанне: "Як Юзаф выконвае сваю ролю апекуна? З разважлівасцю, з пакорай, у маўчанні, але праз пастаянную прысутнасць і поўную вернасць, нават калі яму цяжка зразумець". Дадаў, што Юзаф "знаходзіцца побач з Марыяй у кожную хвіліну з клопатам і любоўю: падчас падарожжа ў Бэтлеем для перапісу насельніцтва і ў поўную трывогі ды радасці хвіліну нараджэння Езуса; падчас драматычных уцёкаў у Егіпет і ліхаманкавых пошукаў Сына ў Святыні; затым у паўсядзённым жыцці ў Назарэце, у майстэрні, дзе вучыў Езуса прафесіі".

### ПРАЦАВАЦЬ У ГАРМОНІІ

У дзяцінстве Езус бачыў сваіх працавітых бацькоў і дапамагаў ім у працы. Як пісаў св. Ян Павел II у сваёй адгартацыі пра св. Юзафа, "Той, пра каго казалі, што Ён «сын цесляра», вучыўся працы ад свайго меркаванага бацькі. Калі Сям'я з Назарэта ў парадку збаўлення і святасці з'яўляецца прыкладам і ўзорам для чалавечых сем'яў, то падобным чынам і з працай Езуса побач з Юзафам – цесляром".

Далей Папа напісаў, што "разам з чалавечнасцю Божага Сына праца таксама была ўключана ў таямніцу Уцелаўлення. Яна таксама была асаблівым чынам адкуплена. Юзаф з Назарэта праз сваю майстэрню, дзе працаваў разам з Езусам, наблізіў чалавечую працу да таямніцы Адкуплення" ("Redemptoris Custos", 22).

На што ўказвае нам прыклад св. Юзафа і Святой Сям'і? Юзаф і Марыя шмат і цяжка працавалі, але праца не паглынала іх цалкам. Наадварот, здзяйснялі яе, выконваючы Божую волю, якая заключалася ў стварэнні любячай і бяспечнай сям'і для іх Сына. Яны цяжка працавалі не толькі для таго, каб выжыць. Такім чынам заакцэнтавалі стаўленне служэння Богу і адно аднаму. Яны былі далёкія ад працы ў адасобленасці. Падзялялі абавязкі, працавалі ў згодзе і ўключалі Езуса ў свае паўсядзённыя хатнія абавязкі.

**1 мая Каталіцкі Касцёл адзначае ўспамін св. Юзафа Рамесніка, заступніка працаўнікоў. Свята ўстанавіў папа Пій XII у 1955 годзе – такім чынам надаючы рэлігійнае значэнне свецкаму святу працы, якое адзначалася з 1892 года.**

Папа Францішак, далей разглядаючы ролю св. Юзафа як ахоўніка Святой Сям'і, заклікаў нас быць ахоўнікамі сваіх сем'яў, што азначае "клапаціцца адзін пра аднаго: сужэнцы апекуюцца адзін адным, затым, будучы бацькамі, клапоцяцца пра дзяцей, а з цягам часу дзеці становяцца апекунамі бацькоў. Гэта шчырае перажыванне прыязнасці, у якой мы клапоцімся адзін пра аднаго з дабром, даверам і павагай".

### ПРАЦА ЯК СРОДАК АСВЯЧЭННЯ

Наколькі адрозніваецца гэты падыход да паўсядзённай працы! У сям'і яна павінна стаць часткай бесперапыннай і ўзаемнай самаахвярнасці мужа і жонкі дзеля агульнага дабра і дабра іх дзяцей. Гаворка ідзе не пра дасягненне поспехаў ці выжыванне, а хутчэй пра выражэнне любові, клопату, апекі і ўдзячнасці Богу. У канчатковым рахунку наша штодзённая праца павінна кіравацца імкненнем да святасці і збаўлення.

Калі нашы сем'і сапраўды хочуць стаць "хатнімі касцёламі", мусім спытацца ў сябе, як падыходзім да паўсядзённых абавязкаў: і тых, што на працоўным месцы, і звязаных з клопатам пра дзяцей ці звычайнымі хатнімі справамі.

Ці праяўляецца ў нашай працы любоў? Ці вядзецца яна дзеля дабра сужэнцаў і дзяцей альбо гэта хутчэй уцёкі ад няшчаснага сямейнага жыцця? Ці ёсць баланс паміж часам, праведзеным на працы, і часам, прысвечаным блізкім? Ці раздзяляюць мужы і жонкі абавязкі і ці патрабуюць належнай дапамогі ад дзяцей? Ці сем'і працуюць толькі дзеля ўласнага дабрабыту альбо задавальняюць патрэбы іншых? Ці праца набліжае нас ці аддаляе ад асабістага асвячэння?

У майскім месяцы, які хутка распачнецца, звернемся да св. Юзафа і Марыі з просьбай прывесці нас да Хрыста як у нашай працы, так і ў нашых сем'ях.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

***18 красавіка – III Велікодная нядзеля***
***Лк 24, 35–48***

Вучні Езуса расказалі пра тое, што здарылася ў дарозе, і як яны пазналі Езуса ў ламанні хлеба. Калі яны казалі пра гэта, сам Езус стаў сярод іх і сказаў: "Спакой вам". Устрывожаныя і напалоханыя, яны думалі, што бачаць духа. Але Ён сказаў ім: "Чаму засмуціліся, і чаму сумненні ўзніклі ў вашых сэрцах? Паглядзіце на Мае рукі і ногі: гэта Я. Дакраніцеся да Мяне і пераканайцеся: бо дух не мае цела і касцей; як бачыце, Я іх маю". Пасля гэтых слоў Ён паказаў ім рукі і ногі. А калі яны ад радасці яшчэ не верылі і дзівіліся, Ён сказаў ім: "Ці маеце тут што з'есці?". Яны падалі Яму кавалак печанай рыбы. Ён узяў і еў перад імі. І сказаў ім: "Гэта словы мае, сказаныя вам, калі Я быў яшчэ з вамі, што павінна збыцца ўсё напісанае пра Мяне ў законе Майсея і ў прароках, і ў псальмах". Тады асвяціў іх розум, каб яны разумелі Пісанне. І сказаў ім: "Так напісана, што Месія павінен цярпець і ўваскрэснуць на трэці дзень з мёртвых, і ў Ягонае імя павінна абвяшчацца пакаянне дзеля адпушчэння грахоў усім народам, пачынаючы ад Іерусаліма. А вы – сведкі гэтага".

### Быць сведкам Уваскрасення

*Досвед апосталаў, звязаны з перажываннем Вялікай пятніцы, моцна іх засмуціў і нават зламаў іх веру ў тое, што перажывалі на працягу трох гадоў побач з Езусам. Але ўваскрослы Хрыстос прыходзіць да іх, каб зноў паверылі. Прыносіць ім спакой, праганяе ўсе страхі і асцярогі. Хоча, каб моцныя Яго перамогай, яны пайшлі ў свет, каб заваяваць гэты свет для Яго – Пана і Пераможцы.*

*Нешта падобнае не раз здараецца ў нашым жыцці. Страх, трывога, унутраныя супярэчнасці, розныя асцярогі і няўпэўненасць засланяюць ад нас Хрыста і выклікаюць сумненні. Але Езус усё роўна заўсёды побач, нястомна падтрымлівае нас у існаванні. Ён хоча, кабва ўсіх сваіх бедах і клопатах мы давераліся Яму. Каб заўсёды былі пераканаsuccessfully, што Ён з намі, як быў пасля свайго ўваскрасення з Пятром і іншымі апосталамі. Ён хоча прасвятліць нашы розумы і сэрцы, каб мы таксама маглі стаць сведкамі Яго ўваскрасення ў сённяшні неспакойны час. Каб маглі на прыкладзе ўласнага жыцця – не толькі ў святочныя дні і нядзелі, але і кожны дзень – засведчыць, што Пан сапраўды ўваскрос.*

*Пане Езу Хрысце, учыні, каб я заўсёды мог адчуваць Тваю прысутнасць і сведчыць іншым людзям аб Тваім уваскрасенні!*

***25 красавіка – IV Велікодная нядзеля***
***Ян 10, 11–18***

Езус сказаў: "Я – добры пастыр. Добры пастыр аддае жыццё сваё за авечак. А найміт і не пастыр, якому не належаць авечкі, калі бачыць, што прыходзіць воўк, кідае авечак і ўцякае, а воўк хапае і разганяе іх. Уцякае, бо ён найміт і не клапоціцца пра авечак. Я – добры пастыр і ведаю сваіх, а Мае ведаюць Мяне, як Мяне ведае Айцец і Я ведаю Айца. І жыццё сваё аддаю за авечак. Ёсць у Мяне і іншыя авечкі, якія не з гэтага двара. І гэтых Мне трэба прывесці, і яны будуць слухаць голас Мой, і будзе адзін статак і адзін пастыр. За тое любіць Мяне Айцец, што Я аддаю жыццё сваё, каб узяць яго зноў. Ніхто не адбірае яго ў Мяне, але Я сам аддаю яго. Я маю ўладу яго аддаць і маю ўладу зноў узяць яго. Такую запаведзь Я атрымаў ад Айца Майго".

### Слухаць Бога

*Езус быў пасланы Айцом, які на Нябёсах, каб быць Пастырам люду. У Яго словах мы адчуваем пастырскі клопат пра авечак, у тым ліку – а магчыма, нават найперш – пра згубленых. Для Езуса важна, каб ніадна з авечак не загінула, але мела жыццё. Таму кожнаму чалавеку Ён ахвяруе вельмі многае і запэўнівае нас у сваёй любові і апецы.*

*Хрыстос, укрыжаваны і ўваскрослы, ахвяруе нам сваю любоў і сваё бессмяротнае жыццё. Нам толькі трэба пачуць Яго голас, прыняць прапанову самога Бога, схапіць Яго за руку, каб прывёў нас да вечнага жыцця. Слухаць голас Хрыста – значыць прыняць у сэрца Боскае вучэнне і прытрымлівацца яго ў сваім жыцці, значыць наследаваць Яму. Гэта таксама азначае ўсведаміць, што да Бога не ідуць у адзіночку, але ў супольнасці: разам з іншымі асобамі – авечкамі, якія імкнуцца да адной мэты – збаўлення.*

*Езус Добры Пастыр заўсёды з кожным з нас. Для таго, каб падтрымліваць сваёй ласкай у нашым зямным паломніцтве да вечнасці. Давайце дазволім Яму кіраваць намі, бо многія не дазваляюць. Давайце пойдзем за Пастырам, рэалізуючы праграму, акрэсленую Ім, каб у канцы свайго жыцця мы маглі сказаць: "Табе, Пане, я даверыўся, не засаромеюся ніколі".*

*Пане Езу, Добры Пастыр, дапамагай мне нястомна ісці за Табой, бо Ты з'яўляешся маёй дарогай, праўдай і жыццём!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валянціну Хведуку** жадаем Божай дапамогі ў справе служэння Касцёлу, каб дзякуючы Вам людзі станавіліся больш добрымі і набліжаліся да Бога. Няхай Пан узнагародзіць усімі дабротамі, адорыць здароўем, шчасцем і поспехам.*

*Вернікі парафіі св. Юрыя ў Беліцы*

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ІМЯНІН

***Паважанаму Ксяндзу Рэдактару Юрыю Марціновічу** жадаем здароўя, сіл і супакою ў сэрцы. Няхай Святы Дух падтрымлівае Вас сваімі дарамі, а святы заступнік заўсёды апекуецца.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

***Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ясевічу** жадаем, каб усемагутны Бог і Панна Марыя заўсёды мелі Вас у сваёй апецы, Святы Дух спасылаў шчодрыя дары, а святы заступнік моцна трымаў за руку і дапамагаў у складаных жыццёвых сітуацыях.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам*
*і Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў*

***Паважанаму Айцу Юрыю Саковічу** жадаем моцнага здароўя і душэўнага супакою. Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святы заступнік заўсёды будзе побач.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам*
*з Карэлічаў і Варончы*

***Паважанаму Ксяндзу Юрыю Федуку** жадаем, каб Езус Хрыстус благаславіў кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінала сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагаў годна выконваць святарскую паслугу.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ражанкі*

***Паважанаму Ксяндзу Юрыю Жэгарыну** жадаем моцнага здароўя, сіл, поспеху і штодзённай радасці. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам*
*з Навагрудка і Любчы*

***Паважанаму Ксяндзу Юрыю Павайбу** жадаем моцнага здароўя, супакою ў сэрцы, добразычлівасці ад людзей, нязгаснага запалу веры, нястомнай апекі Маці Божай і св. Юрыя. Няхай святло Хрыста асвячае святарскі шлях, а Святы Дух вядзе праз жыццё.*

*Бацькі, брат і сёстры з сем'ямі*

***Паважаным Ксяндзам Юрыю Барташэвічу і Юрыю Ясевічу** жадаем моцы ў нясенні святарскай паслугі, нястомнай руплівасці ў выкананні Божай волі і цудоўнага плёну на ніве Пана.*

*Апостальства "Маргарытка" і парафіяне з Беняконяў*

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ДНЯ СВЯТАРА І ВЕЛІКОДНЫХ СВЯТ

***Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу, Ксяндзам Каноніку Здзіславу Вэдэру, Пробашчу Паўлу Шчарбіцкаму, Артуру Ляшнеўскаму, Аляксандру Мятліцкаму, Уладзіславу Сурвілу, Алегу Каралёву, Алегу Жураўскаму, Сёстрам Марыі Стасевіч, Ірэне Барцэвіч, Вераніцы Блізнюк, Валянціне Кот, Юліі Клявец, Мар'яне Алешчык, Філатэі Ціхановіч, Агаце Смольскай, Клары Волчэк і Аляксандры Арэшка** жадаю здароўя, стойкасці ў паслузе, апекі Маці Божай і ўсіх патрэбных ласкаў ад уваскрослага Хрыста. Няхай Бог адорыць Вас любоўю і благаслаўленнем.*

*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

***Глыбокапаважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Ксяндзам Яну Раманоўскаму, Юрыю Марціновічу, Пробашчу Яўгену Учкуронісу, Віталію Валюку, Дзмітрыю Урбановічу, Віталію Цыбульскаму, Юрыю Ёдзіку, Аляксандру Вараб'ёву, Артуру Валчкевічу, Алегу Яновічу і Сястры Магдаліне Кулай** жадаем благаслаўлення ад уваскрослага Хрыста, дароў Святога Духа і моцнага здароўя. Няхай праменні Божай міласэрнасці асвячаюць Ваш жыццёвы шлях, а святло Вашай веры вядзе да наўяртання тых, хто яшчэ не ведае Бога.*

*Апостальства "Маргарытка",*
*Легіён Марыі, Ружанцовае кола*
*і вернікі парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

***Паважаным Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ясевічу і Айцу Андрэю Ядкоўскаму** жадаем здароўя, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай паслузе, нязгаснай любові, веры і зычлівых людзей побач. Няхай Бог заўсёды Вас благаслаўляе!*

*Вернікі і Ружанцовае кола*
*св. Яна Непамуцэна са Станевічаў*

***Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму** жадаем моцнага здароўя, сіл на кожны дзень паслугі і людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае шлях, а Божая міласэрнасць і апека Панны Марыі дадаюць сіл і цярплівасці.*

*Парафіяне касцёла*
*Сэрца Пана Езуса ў Рандзілаўшчыне*

***Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шанчуку** жадаем, каб уваскрослы Хрыстос адорваў Вас сваімі ласкамі, сапраўднай радасцю і супакоем, Марыя напаўняла сэрца любоўю, а Святы Дух шчодра спасылаў свае дары.*

*Вернікі парафіі Гожа*

***Паважаным Ксяндзам Паўлу Скубу і Віктару Захарэўскаму** жадаем здароўя, радасці, сілы, аптымізму, стойкасці і запалу у рэалізацыі планаў. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны Панам, а мудрыя казанні цешаць людскія душы і сэрцы.*

*Парафіяне касцёла Божага Цела ў Дварцы*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Спірыдону** жадаем моцнага здароўя, сіл і цярплівасці на святарскім шляху. Няхай Святы Дух спасылае на Вас свае шчодрыя ласкі, Хрыстос адорвае міласэрнасцю, а Панна Марыя ахінае апекай.*

*Вернікі капліцы Вердамічы*

***Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку** жадаем бязмежных ласкаў ад уваскрослага Хрыста, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці.*
*З нагоды дня нараджэння і імянін жадаем таксама моцнага здароўя, поспехаў у святарскай паслузе і зычлівых людзей навокал.*

*Парафіяне капліц*
*Верабейкі і Вердамічы*

***Паважаным Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю і Сястры Ганне Насевіч** жадаем, каб уваскрослы Езус Хрыстус шчодра ўзнагародзіў Вас добрым здароўем і ўсімі патрэбнымі ласкамі. Няхай Ваш шлях служэння Богу будзе доўгім, шчаслівым і плённым.*

*Вернікі капліцы Ліпічна*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу** жадаем, каб дарога, на якую Вас паклікаў Хрыстос, была дарогай да святасці. Любіце сваё святарства, умейце распазнаць у ім евангельскі скарб, за які варта аддаць усё.*

*Касцёльны Камітэт і парафіяне*
*касцёла Унебаўзяцця НПМ у Дзятлаве*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму** жадаем моцнага здароўя на доўгія гады і ўсіх Божых ласкаў. Няхай кожны дзень будзе поўны цяпла і радасці, паспяхова рэалізуюцца ўсе планы, а ўваскрослы Хрыстос заўсёды благаслаўляе.*

*Працаўнікі гродзенскай катэдры*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Скубу і Віктару Захарэўскаму** жадаем, каб уваскрослы Езус быў крыніцай радасці і спакою, адорваў здароўем, цярплівасцю і патрэбнымі ласкамі, благаслаўляў у паслузе і спадарожнічаў на шляху да святасці.*

*Вернікі парафіі Раготна*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Барташэвічу** жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, Божага благаслаўлення на кожны дзень, апекі Маці Божай. Дзякуем за чулае сэрца і цярплівасць. Памятаем у сваіх малітвах.*

*Парафіяне касцёла ў Жырмунах*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму** жадаем моцнага здароўя, сіл і цярплівасці на святарскім шляху. Няхай Святы Дух спасылае на Вас свае шчодрыя ласкі, а Хрыстос адорвае міласэрнасцю і будзе крыніцай любові і супакою ў Вашым жыцці.*

*Касцёльны камітэт, Ружанцовыя колы*
*і вернікі парафіі св. Максімільяна Кольбэ*
*і св. Станіслава, біскупа, у Каробчыцах*

***Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну** жадаем душэўнага супакою, моцнага здароўя і нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова. Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць Вас сваім благаслаўленнем, а Святы Дух асвячае святарскі шлях.*

*Вернікі парафіі*
*Звеставання НПМ у в. Мяжэрычы*

працяг на старонцы 8

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

***Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку*** *жадаем здароўя, стойкасці ў душпастырскай паслузе, апекі Маці Божай і людской зычлівасці. Няхай уваскрослы Хрыстос заўсёды Вас блаславляе.*

*Парафіяне з Нямнова*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Уладзіміру Гуляю, Паўлу Безляповічу і Раману Вайцяховічу, Сёстрам Галіне і Ганне*** *жадаем моцнага здароўя, Божага блаславлення, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай. Няхай святло ўваскрослага Хрыста асвячае шлях, а Божая міласэрнасць дадае сіл і цярплівасці.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Ліды-Фары*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Валерыю Спірыдону, Юрыю Канапельку і Андрэю Пышынскаму*** *жадаем шмат сіл і стойкасці ў імкненні выбранай дарогай, плённай паслугі на ніве Пана, шчодрых ласкаў і блаславлення ад уваскрослага Хрыста.*

*Вернікі парафіі Мсцібава*

***Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу*** *жадаем мноства Божых ласкаў. Няхай Пан Бог дапамагае ў душпастырскай паслузе, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй любоўю, а Святы Дух шчодра ўдзяляе свае дары.*

*Станіслава Сідаровіч, Люцыя Лабэцкая, Марына Скорб і Марыя Вішнеўская з Воўпы*

***Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму*** *жадаем, каб міласэрны Бог адорваў Вас патрэбнымі ласкамі, жыццёвы шлях быў блаславлёны, а служэнне прыносіла радасць, задавальненне і шчодры плён.*

*Андрэй Слонімец і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Мар'яну Хаменю і Пятру Вішнеўскаму*** *жадаем здароўя, душэўнага супакою, зычлівых людзей побач, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і шчодрых Божых ласкаў.*

*Вернікі парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Шылавічах*

***Паважаным Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму і Айцу Казіміру Енджэйчаку*** *жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і поспехаў. Няхай уваскрослы Хрыстос блаславляе, Святы Дух спасылаем шчодрыя дары, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй любоўю і апекай.*

*Жыхары в. Шэмбелеўцы*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Алегу Яновічу, Леону Лішыку і Яну Сарэлу*** *жадаем сапраўднай радасці ад выканання святарскай паслугі, аптымізму, добрага здароўя, моцы, дароў Святога Духа, а таксама ўсіх ласкаў і блаславлення ад уваскрослага Хрыста.*

*Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі і вернікі парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе*

***Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько*** *жадаем распаліць у сабе нанова Божую харызму, атрыманую праз ускладанне рук, і яшчэ больш палка пераважваць радасць ад выключнай аддана сці Хрысту. Няхай трыванне побач з Ім будзе ўзнагароджана радасцю Уваскрасення.*

*Сябры*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Чэславу Паўлюкевічу, Яўгену Ціхану, Дзмітрыю Папенюку і Андрэю Радзевічу, а таксама ўсім Святарам і Рэкалекцыяністам, якія працавалі ў нашай парафіі,*** *жадаем той святасці, якая выражаецца руплівасцю і аддана сцю, каб Вас заўсёды падтрымлівала моц Святога Духа і любоў да Эўхарыстыі, каб стараліся быць верагоднымі сведкамі Хрыста ў сучасным свеце.*

*Парафіяне з Росі*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму*** *жадаем Божага блаславлення, патрэбных ласкаў ад уваскрослага Хрыста, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа, радасці і моцнага здароўя.*

*Малітоўная група МБ Кангрэгацкай*

***Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку*** *жадаем заўсёды заставацца верным Хрысту. Няхай Ён адорвае Вас патрэбнымі ласкамі, каб яшчэ паўней маглі рэалізаваць святарскае пакліканне.*

*Парафіяне з Гнезна*

***Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Бразінскаму*** *жадаем, каб міласэрны Бог узнагародзіў Вас моцным здароўем, вытрымкай, ласкавасцю і цеплынёй свайго сэрца. Няхай Вам спадарожнічае блізкасць Пана, каб рытм Вашага сэрца біў рытмам любові Сэрца Езуса.*

*Вернікі капліцы МБ Вастрабрамскай у Урцішках*

***Паважанаму Ксяндзу Уладзіміру Аксенцьеву*** *жадаем, каб жыццё было напоўнена толькі добрымі ўчынкамі, уваскрослы Хрыстос адорваў здароўем, сілай і цярплівасцю, а Найсвяцейшая Маці атуляла бязмежнай любоўю.*

*Вернікі з в. Еўлашы, Багданы, Доўгая парафіі Лядск*

***Паважаныя Ксяндзы Пробашч Ян Пузына, Аляксандр Пятровіч, Ян Варанецкі і Юрый Садоўскі!*** *Маці Божая даручыла Сына ў Вашы рукі. Няхай Яна ахінае Вас сваёй апекай, а Езус няхай блаславляе святарскую паслугу. Дзякуем за цярплівасць, клопат і пашану да нас.*

*Вернікі парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах*

***Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму*** *жадаем, каб міласэрны Бог адарыў здароўем на доўгія гады, каб Вы маглі працаваць на Божую хвалу і для перамянення людскіх сэрцаў. Складаем сторазовае "Аддзяч, Божа!" за прамоўленае Божае слова падчас рэкалекцый. Няхай Маці Божая чувае над кожнай Вашай хвілінай.*

*Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў*

***Паважаным Айцам Пробашчу Андрэю Агелю, Яну Асіповічу, Віталію Слуку, Вітольду Пяцельчыцу, Аляксандру Махначу, Клерыку Андрэю, Брату Віктару, Арганісткам Людміле і Наталлі*** *жадаем моцнага здароўя і радасці. Няхай уваскрослы Езус асвятляе Ваш жыццёвы шлях, а Маці Божая ахінае сваёй апекай. Дзякуем за Вашы малітвы і дабрыню.*

*Кола Жывога Ружанца св. Максімільяна са Шчучына*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Этэлю, Аляксандру Фядотаву, Аляксею і Віталію Венцкевічам, Сёстрам Аляксандры і Дароце*** *жадаем радасці, поспехаў у рэалізацыі планаў і задум, моцнага здароўя, дароў Святога Духа і ўсіх патрэбных Божых ласкаў.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Божай Міласэрнасці ў Гродне*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму*** *жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, добрых і зычлівых людзей, гатовых прыйсці на дапамогу ў кожную хвіліну. Няхай Святы Дух асвячае кожны дзень Вашай паслугі, а Марыя ахінае плашчом любові.*

*Парафіяне з Каробчыцаў*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Шчарбіцкаму, Артуру Ляшнеўскаму, Каноніку Здзіславу Вэдэру, Сёстрам Ірыне Барцэвіч, Вераніцы Блізнюк і Валянціне Кот*** *жадаем моцнага здароўя, зычлівых людзей побач і шчодрых Божых ласкаў. Няхай усе добрыя намеры рэалізуюцца, а ўваскрослы Хрыстос адорыць Вас сваёй міласэрнасцю.*

*Дзеці, моладзь, кандыдаты і міністранты, парафіяне касцёла св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

***Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Несцеру і Юрыю Марціновічу*** *жадаем моцнага здароўя і чулых людскіх сэрцаў. Няхай уваскрослы Езус будзе Крыніцай супакою ды радасці і штодзённа Вас блаславляе ў душпастырскай паслузе.*

*Апостальства "Маргарытка" і вернікі капліцы Сураж*

***Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Несцеру, Віктару Савіцкаму і Юрыю Марціновічу*** *жадаем моцнага здароўя, сілы, непахіснай веры і надзеі. Няхай добры Бог адорвае Вас шчодрымі ласкамі, а святыя заступнікі няспынна моляцца за Вас перад Божым тронам.*

*Вернікі капліцы Вінцукі*

***Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку*** *жадаем, каб Добры Пастыр вёў Вас праз жыццё, удзяляючы патрэбныя ласкі для выканання паклікання, а Маці Божая апекавалася.*
*З нагоды дня нараджэння і імянін жадаем таксама моцнага здароўя, сіл і душэўнага супакою.*

*Парафіяне з Поразава*

***Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу і вернікам парафіі Новая Руда*** *жадаем патрэбных Божых ласкаў, апекі Панны Марыі, блаславлення ад уваскрослага Збаўцы і моцнага здароўя на кожны дзень жыцця.*

*Сем'і Заяц і Пешкун*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву*** *жадаем здароўя, разважлівасці, душэўнага супакою. Няхай уваскрослы Хрыстос дадасць Вам сіл, каб пераадолець усе цяжкасці, і адорыць Вас радасцю свайго ўваскрасення.*

*Малітоўная група і парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

***Паважаным Ксяндзам Аляксандру Шэмету, Алегу Кудэрку і Артуру Малафею*** *жадаем блаславлення ад уваскрослага Хрыста, апекі Маці Божай, моцнага здароўя, душэўнага супакою і неабходных сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў.*

*Вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Аляксандру Рамаюўскаму, Эрнэсту Мікалайчыку і Андрэю Зайко*** *жадаем, каб Маці Божая, якая даручыла свайго Сына у Вашы рукі, заўсёды абараняла Вас, а Езус блаславляў святарскую паслугу. Дзякуем за сапраўдны прыклад годнасці і набожнасці.*

*Парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

***Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку*** *жадаем, каб Пан Бог адарыў Вас сваімі ласкамі і супакоем, Маці Божая заўсёды апекавалася, а кожны дзень быў блаславлёны.*
*З нагоды дня нараджэння і імянін жадаем таксама моцнага здароўя і шчасця.*

*Парафіяне са Студзенікаў*

***Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку*** *жадаем моцнага здароўя, сіл на кожны дзень і людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Найсвяцейшай Маці дадаюць сіл і цярплівасці.*

*Парафіяне касцёла св. Андрэя Баболі і супольнасць Святой Сям'і*

***Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу*** *жадаем моцнага здароўя, сілы і цярплівасці на святарскім шляху. Няхай Святы Дух няспынна спасылае на Вас свае дары, святло Уваскрасення Хрыста асвячае паслугу, а Божая міласэрнасць і апека Марыі дадаюць сіл.*

*Парафіяне і апостальства "Маргарытка" з Рэплі*

***Паважанаму Ксяндзу Артуру Валчкевічу*** *жадаем моцнага здароўя, поспехаў у душпастырскай паслузе, душэўнага супакою і добразычлівых людзей побач. Няхай Езус Хрыстус адорвае сваімі ласкамі, а Маці Божая вядзе найлепшай дарогай да святасці.*

*Сябры*

***Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу*** *жадаем, каб Пан Бог адорваў Вас сваімі ласкамі, моцным здароўем, супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай паслузе. Няхай Святы Дух асвячае Ваш жыццёвы шлях, а Маці Божая нясе цяпло свайго сэрца.*

*Касцёльны камітэт і вернікі парафіі Дуды*

***Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку*** *жадаем спакойных дзён у Божай ласцы. Няхай Хрыстос заўсёды будзе Вашым Сябрам, а служэнне Богу і людзям прыносіць задавальненне і шчодры плён.*

*Валерый, Вераніка і Яна*

***Паважаны Ксёндз Юрый Кузьміч!*** *Пакліканне – дар Божы, таямніца, якая нараджаецца ў душы, каб Небу Вы за нас маглі маліцца, Касцёлу з Божай ласкаю служыць. Прыміце сёння нашы віншаванні, паклон падзякі нізкі, да зямлі. Здароўя Вам і блаславлення Пана, апекі Маці Божай, цеплыні! Мы ўдзячны Богу і Вам за 11 гадоў паслугі ў нашай парафіі.*
*З нагоды імянін жадаем таксама ўсіх Божых ласкаў і апекі святога заступніка.*

*Вернікі, моладзь, Колы Жывога Ружанца, апостальства "Маргарытка" і Апостальства дапамогі чысцовым душам з Новага Двара*

***Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько*** *жадаем, каб уваскрослы Хрыстос блаславіў Вас і абараніў, а Панна Марыя нястомна клапацілася пра Вас. Здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, радасці, усмешкі і цудоўнага плёну на ніве Пана.*

*Парафіяне з Мастоў*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Несцеру*** *жадаем, каб уваскрослы Езус адарыў Вас моцным здароўем, Найсвяцейшая Маці ахінала сваёй апекай, а Святы Дух быў шчодры на свае дары. Няхай кожны дзень прыносіць радасць і шчодры плён.*

*Касцёльны камітэт парафіі св. Мікалая ў Геранёнах*

***Паважаным Ксяндзам Валянціну Хведуку і Віктару Захарэўскаму*** *жадаем, каб уваскрослы Езус ахінаў Вас сваёй апекай, Святы Дух адорваў патрэбнымі дарамі, а Панна Марыя заўсёды чувала над Вамі.*
*З нагоды дзён нараджэння жадаем таксама моцнага здароўя, сілы, душэўнага супакою і шмат радасці.*

*Парафіяне з в. Моцевічы*

*Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.*

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1395; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.